Нацыянал-моладзевы абвесьнік

# ГЭТА МЫ!



Яны йшлі паміраць, каб жыла нацыя

## АЛЕ МЫ ПАМЯТАЕМ!

Маскальская біямаса й ейныя лёкаі на Беларусі апошнім часам асабліва ўзмацнілі свае закіды ў бок беларускіх патрыётаў, што дзеілі за часоў Другое Сусьветнае вайны. Як заўжды, пачын і першая партыя належыць славянскаму правадыру. Нядаўна з свайго пляцдарму на Карла Маркса ён выпусьціў чарговую партыю джалавае атруты, параіўшы айчынным пісьменьнікам "асабліва не захапляцца калябарантамі-рэнэгатамі рагулямі, арсеньневамі й іншымі здраднікамі". Выхаваны на опусах хачыка Цанавы й ханты-мансійца Абэцэдарскага, гэты прамоўца дакладна ўжо ніколі не атрымае асалоды ад прачытаньня непаўторных твораў Натальлі Арсеньневай, Ларысы Геніюш. Ён пазбаўлены гэтага, а таму – духова спустошаны. Супольна зь ім злосьцяй пыхаюць і крэўныя суродзічы ягоных паплечнікаў – уралаў і [illegible]йманаў. У газэце чырвоных бронтазаўраў "Мы и время", да прыкладу, ісьцінна славянскі маскаль башкірскага паходжаньня палымяна даводзіць, што найменьне Беларусь скрозь збэшчанае "праклятымі фашыстоўскімі недабіткамі" – праз вокліч Саюзу беларускае моладзі "Жыве Беларусь!", а гэтаксама назоў эсэсаўскае брыгады "Беларусь". Затым аўтар з праведным гневам на вуснах усклікае: "Калі-ж мы вернем нашае роднае, гістарычнае Белоруссия й адмовімся ад прафашыстоўскае Беларусі? Калі?!" У сугучча да яго далучаецца "этнічны бедуін" Павел Ізраілевіч Якубовіч (таксама ісьцінны велікарос), якому ў сваю чаргу здаецца, што "Коля Кедышка, Зоя Касмадзям'янская й Ісай Казінец былі ўсё-ж большымі беларускімі патрыётамі, чым запляміленыя крывёю гета й Трасьцянцоў арсеньневы й геніюшы". Назваў-бы яшчэ "беларускім патрыётам" Шымона Пэрэса – таксама-ж паходзіць адсюль, хоць і пляваць яму на Нашую Беларусь. Як, зрэшты, і тым названым сп.Ізраілевічам "героям" бальшавіцкае прапаганды.

А мы будзем шанаваць не шымонаў-абрэкаў-ісаяў-рамазанаў, але тых, хто бараніў наш край, разьвіваў нашую культуру, прышчэпваў народу наш, Беларускі Дух, — вяроў Рагулю й Кушаля, творцаў Арсеньневу й Геніюш, палітыкаў Астроўскага, Шкялёнка й Акінчыца. Гэта – наш гонар. Аб іх наш незабыўны ўспамін.

*Ад рэдакцыі*

**Беларусы!**

Мы ўсе ведаем, што наш сьмяротны вораг, бальшавіцкая Масква, ня хоча бачыць вольным наш народ і нашую Радзіму. Таму яна кідае свае дзікія аргады на наш край і перапаўняе нашыя лясы сваімі бандытамі. Толькі таму зьнішчае яна нашыя культурніцкія ўстановы, бамбардуе ні ў чым не вінаватае насельніцтва нашых гарадоў, здрадліва забівае лепшых мужоў нашага народу. Яна робіць гэта, каб зноўку накінуць нам свой праклятвы прыгнёт. Ці павінны мы схіліцца пад маскоўскім ярмом? Ніколі!

Менавіта таму для скарыстоўваньня нашых вялізарных магчымасьцяў мы павінны аддаць усе нашыя сілы на творчую працу дзеля нашае Радзімы й ані на хвіліну не павінны забывацца, што нашым найпершым абавязкам зьяўляецца барацьба супроць бальшавіцкае Масквы й, перш за ўсё, зьнішчэньне бальшавіцкіх аргадаў, што спустошваюць нашую краіну. Да апошняга бандыта яны маюць быць зьнішчаныя. Ад нас саміх залежыць скарыстаць нашыя мажлівасьці. Кожная беларуская вёска мусіць пераўтварыцца ў недасягальную для бандытаў фартэцыю, кожны беларус і беларуска павінны ўзяць дзейсны ўдзел у зьнішчэньні бальшавіцкіх гнёздаў у нашых лясох. Калі ўсе мы самаахвярна возьмем удзел у гэтай барацьбе, дык дні бандытаў будуць зьлічаныя.

Усе мы ведаем, што вялікія падзеі, якія мы перажываем зараз, маюць вырашальнае значэньне гэтаксама для нашае будучыні. Ад нас саміх залежыць, каб яна сталася шчасьліваю й каб нашая Радзіма пасьля шматгадовага зьдзеку зноўку здабыла Волю.

Таму я як прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады заклікаю вас прыкласьці ўсе свае намаганьні на працу й барацьбу дзеля нашае радзімы супроць апошняга ворагу – бальшавіцкага імпэрыялізму. Ніхто ня мае права ў гэтыя вырашальныя часіны стаяць збоку, бо гэткі чын дзеяньня азначае й для яго й для іншых сьмерць.

Бальшавізм нясе адныя й тыя-ж небясьпечнасьці. Таму – наперад на барацьбу дзеля дасягненьня канчатковае перамогі над бальшавіцкаю Масквой, мае суайчыньнікі!

**Няхай жыве вольная Беларусь і Беларускі народ!**

*Радаслаў Астроўскі*

прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады

Менск, 10 студзеня 1944 году

Алесь Віталёнак

# Скрозь імёны



Яшчэ ў XIX-ым стагодзьдзі Адам Міцкевіч трапна адцеміў: “Беларуская мова — сама сугучная й з усіх славянскіх моваў найменш зьмененая”. Узбагачаная жыўнямі з гаворак розных частак Беларусі, яна квітнела асноўна ў сялянскіх хатах. Кемлівы розум беларускага селяніна ўвесь час уносіў у разьвіцьцё свае мовы штосьці новае, лепшае за папярэдняе. Гэткім чынам адбывалася натуральнае ўзрастаньне ейнае рознабаковае сталасьці. Нездарма ж лічыцца, што мова беларуская — другая ў сьвеце паводле мілагучнасьці.

Шмат унікальных асаблівасьцяў можна вывесьці з грунту беларускае мовы. Адной з найбольш адметных зьяўляецца наш іменьнік. Самавітаю постацяй між дасьледнікаў гэтае галіны ёсьць Вацлаў Ластоўскі. У 20-ых гг. XX ст. у дадатку да свайго «Расейска-крыўскага слоўніка» ён пісаў: «Над крыўскім іменьнікам дагэтуль ніхто не працаваў ні ў польскай, ні ў расейскай літаратуры; тымчасам праца гэтая можа даць надзвычайна каштоўныя дадзеныя». У адрозьненьне ад сваіх суседзяў беларусы зь цягам часу выпрацавалі арыгінальныя йімёны, што залежаць найперш ад веку (узросту — рэд.) ягонага носьбіта. А ў той жа Расеі й хлопца-падлетка, і сталага мужчыну завуць аднолькаваю ўстойліваю формаю: Александр, Евгений, Дмитрий. Хіба што йснуюць фамільярныя вар'янты: Саша, Женя, Дима. Гэткім чынам, у Расеі — паўсюдная заскарузласьць іменьніку, спыненьне разьвіцьця формаў імёнаў, адмова ад больш дакладнага вызначэньня (перш за ўсё векавага) чалавека. Хоць першыя крокі ў гэтым кірунку ў Расеі, відаць, былі зробленыя, але поступ запаволіўся, змарнеў, а неўзабаве — і ўвогуле запыніўся.

Жывая беларуская мова ж абрала іншую, непратаптаную іншымі мовамі сьцяжынку, плёнам чаго гісторыя й дае нам мажлівасьць карыстацца. Не зважаючы на неспрыяльныя варункі, вяртаньне зь нябыту аўтэнтычных імёнаў ёсьць і мае быць. Вось як азначаў узроставы падзел крывіцкіх імёнаў сам Ластоўскі:

«Маткі, як ведама, дзіцям абіраюць сама песьлівыя йімёны або, іначай кажучы, выводзяць гэтыя йімёны ад хросных паводле законаў мовы й прынятага завядзёнкамі чыну. Гэтак Антон будзе — Анцік, Юры — Юрцік і г.д.

Калі ж хлопца апранулі ў порткі й ён ужо стаўся мужчынам, каб зьмену гэтую ў ягоным жыцьці мацней зазначыць, яго ўжо больш не завуць Анцікам, Юрцікам, ён ужо ня мамчын пястун, але ўжо працаўнік: будзе гусей ці курэй пасьвіць, пёры скубаць, паедзе разам з бацькам у поле: дык і йімя ягонае з гэтага часу спраўнае — Пятрук, Антук, Юрка й г.д.

Але вось хлапец падрос, ён ужо дзяцюк, маладзён, ужо ўцерся ў кавалерскую й дзявоцкую кампанію, на вечарыну ці йгрышча. У дзявоцкай кампаніі гэткая форма йімёнаў як Антук, Пятрук яўна не стасоўная. І вось тут самі сабою замяняюцца Антукі ў Анатоляў, Пятрукі ў Пятрусёў, Юркі ў Юрасёў.

Урэшце надыходзіць час жаніцтва — пераход бы «з рабяцкага стану ды ў мужчынскую славу». Тут ужо й сам Бог судзіў Ігнасю, Аўгусю пераўтварыцца ў Ігната, Аўхіма. Гэта, як кажа прымаўка, час «мужаваньня ды баляваньня». Але час ідзе. Падрасьлі

дзеці, Міхайла й Ігнат і Пятро ажанілі сыноў. Нявестка, прыйшоўшы ў новую сям'ю, стараецца быць да ўсіх ветлівай, а найперш да бацькоў мужа. І вось Аўгей становіцца Аўгіяшом, Рыгор — Грынём, і ня толькі ў сваёй сям'і, але й у суседзяў.

І гэтак, у крывіцкім іменьніку ёсьць наступныя формы йменаў: для дзіцяці (Анцік, Петрык), падлетка (Янук, Аўгук), дзяцюка (Кастусь, Алесь, Юрась), мужа (Аўхім, Баўтрым), старца (Андрыяш, Юльляш, Гальляш).»

Беларускі йменьнік — гэта абоймісты, амаль некрануты пласт беларускага мовазнаўства. Між іншага ён здольны даць найцікавейшыя зьвесткі дзеля разуменьня шмат якіх імёнаў ды прозьвішчаў, якія на Беларусі ўтвараліся з бацькаўскіх імёнаў:

Баркулабаўскі летапіс (Баркулаб — Варфоломей), паэт **Францішак** Багушэвіч (Багуш, Богуш — Багуслаў), старажытнаполацкі майстар, вытворца эўфрасіньнеўскага крыжу Богша (гэтаксама ад Багуслаў), войсканачальнік Рэчы Паспалітае Януш Радзівіл (Януш — Іван, Ян), сярэднявечны палемічны твор «Прамова Мялешкі» (Мялешка — Мелетий), паэт Леанід Дранько-Майсюк (Майсюк — Моисей), Вялікі князь Літоўскі Ягайла (Ягайла — Іван, Ян), сялянскі паэт Паўлюк Багрым (Багрым, Бахрым — Варфоломей), старшыня Рады БНР Васіль Захарка (Захар — Захарий), намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка (Ходка — Фёдар)...

Як і ў любой нявывучанай як сьлед справе, і тут часам надараюцца «перагібы». Натуральна, большасьць іхная мае мейсца за сёньняшніх часоў. Прыкладам, імя намесьніка старшыні БНФ сп.Вячоркі, як суб'ектыўна здаецца аўтару гэтага артыкулу, болей надатнае для якога хлопца (гл. вышэй вызначэньні В. Ластоўскага). Альбо вось: надта «моднае» зараз сталася ймя Павал, якое ўжывае ці ня кожны ўладальнік імя Павел. Але калі для сталага, умудранага жыцьцёвым досьведам мужчыны гэтае ймя будзе гучаць цудоўна, то, ужыванае маладым хлопцам, яно выглядае проста сьмешна ды нават амбітна.

Аднак хто-хто выйграе ў гэтай моўнай «блытаніне», дык гэта славуты «скаральнік дзяржаўных комінаў» Мірон. Калі ягонае ймя паставіць у чацьвертую форму (Міраш) і зьмяніць націск зь першага на другі склад, атрымаем — кропля ў кроплю ягонае палітычнае крэда!

Грэх у гэткай «зарослай нявыведанымі гушчарамі» тэме не ўзгадаць нашага ўсенароднаабранага лідара нацыі. Прапаную замест ягонага ўшчэнт зрусыфікаванага йменя Александр Григорьевич зваць прэзыдэнта больш беларускім мяном. Прычым, для прыхільнікаў ды непрыхільнікаў — адрозьнена: Вольша Грыдзевіч (для першых: каб падкрэсьліць ягоную палітычную сталасьць у справе інтэграцыі ўсіх славянаў) ды Алелька Рыгасевіч ці Ольцік Рыгукавіч (для другіх: каб адзначыць ягоную дужа маладую няцямлівасьць у эканоміцы).

Як бачыце, скарбніца беларускага йменьніку — насамрэч невычэрпная. І карыстацца ейнымі бяздоннымі багацьцямі давядзецца не аднаму пакаленьню беларусаў.

# Хлопча!

- Ты ўважаеш Беларускую Нацыю за найслаўнейшую ў сьвеце й прагнеш здаровага Нацыянальнага Рэваншу;
- Ты супроць праславяненага дзяўканьня рэжыму й асаветызаванага квахтаньня «памяркоўнае апазыцыі»;
- Ты маеш што прамовіць у абарону сваіх ідэяў і даказаць, што н а ц ы я н а л — **гэта гучыць годна — тады пішы нам!**

**Разам мы скаланем гэтую баязьлівую твань!**

**Толькі разам! Толькі лучна! Толькі супольна нашыя ідэі будуць рэхам гучаць па ўсім Краі!**

*Нашая новая адрэса:*

**220086 Менск а/с 121**

## БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ!




Як?! Твой асяродак яшчэ не ўваходзіць у аўрэолю распаўсюду нашае газэты?! Гэта жахліва, але выпраўляльна. Не марнуй бясцэннага часу — зьвязвайся з намі любымі сродкамі й улучайся ў прапаганду Беларускага Нацыяналізму. Распаўсюд нашае газэты ёсьць тваім унёскам ува ўзьвядзеньне Новае Беларусі!

*220086 Менск а/с 121*

Выданьне заснаванае ў сьнежні 1997 году
Галоўны рэдактар – Алесь Міксовіч
Рэдакцыйная Рада – Раман Альшэўскі, Сяржук Сямера, Вінцэсь Філістоўскі

Адказнасьць за пададзеныя зьвесткі нясуць аўтары
Адрэса для допісаў: **220086, Менск, а/с 121**
Наклад: 299 асобнікаў

Міхал Белы

# ДНК БЕЛАРУСКАГА АРГАНІЗМУ:
## ДЗЯРЖАЎНІЦТВА, НАЦЫЯНАЛІЗМ, КАНСЭРВАТЫЗМ

Нельга пагадзіцца з штучным разьдзяленьнем паняткаў "нацыяналізм" і "патрыятызм". Таксама як нельга вызначыць, якая з абстракцыяў "нацыя"-"дзяржава" зьяўляецца мэтаю, а якая — сродкам. Няможна сабе ўявіць, што ў сёньняшняй рэчаіснасьці нейкая этнічная супольнасьць можа стаць (альбо застацца) нацыяй безь існаваньня адпаведнага інстытуту — дзяржавы. Бо у гэткім выпадку этнасу наканаваная асыміляцыя, рашчыненьне ў іншамоўнай, іншакультурнай прасторы. Больш за тое — нават існаваньне адносна невялікага колькасна этнасу ў сваёй дзяржаве не ратуе яго ад небясьпекі страты саматоеснасьці пад чужым культурніцка-цывілізацыйным уплывам. Таму мы назіраем паўсюднае гуртаваньне невялікіх і сярэдніх краінаў з роднаснымі сацыяльна-культурніцкімі, эканамічнымі, геапалітычнымі характарыстыкамі.

Такім чынам, нельга разглядаць інстытут нацыянальнае дзяржавы адно як сродак для вырашэньня нейкіх мэтаў нацыі. Яна ёсьць неабходнаю ўмовай і адзінаю магчымаю формай самаарганізацыі нацыянальнае супольнасьці. "Нацыя" як мэта, адарваная ад панятку "дзяржава", набывае абстрактны, цьмяны сэнс.

Яшчэ болей узрастае значаньне дзяржавы ў канкрэтнай сытуацыі нашае краіны. Па-першае, зь дзьвюх існуючых канцэпцыяў нацыі — "нацыя як этнічная супольнасьць" ды "нацыя як дзяржаўная супольнасьць" — да нас відавочна стасуецца другая (вядома, трэба мець на ўвазе, што дадзеная супольнасьць абываталяў якое-кольвек дзяржавы ня ёсьць мэханічным спалучэньнем касмапалітычных грамадзянаў "бяз роду, бяз племя", але супольнасьцяй грамадзянаў, што вызнаюць і ўважаюць за свае незалежна ад собскага этнічнага паходжаньня культурніцка-цывілізацыйныя нормы дадзенае дзяржавы, выпрацаваныя тытульным этнасам).

Па-другое, дзяржаўніцкая традыцыя ў нас заўжды была вельмі разьвітаю. І што асабліва важна — гэтая традыцыя збалянсавана (да XVII ст.) спалучала недатыкальныя вольнасьці абываталяў (на той час — шляхты) з мэтамі агульнагаспадарскімі.

Таму ня варта адрывацца ад цьвёрдае глебы. Ідэя моцнае нацыянальнае дзяржавы ўкаранёная ў сьвядомасьці народу не выпадкова. Кансэрватызму й дзяржаўніцтва сёньня вымагае й этнічная, і сацыяльна-эканамічная сытуацыя. Што да палітычнае раскладкі, дык і тут народна-кансэрватыўная пазыцыя нашмат болей пэрспэктыўная, чымся лібэральная гнуткасьць перад Захадам і "демократической Росией" або лявацкія заляцаньні да "сьвядомага" пралетарыяту.

Камунізм як палітычная плынь на Беларусі хірэе штогод, бо туга па кілбасе — гэта не ідэалёгія, але фізыялёгія. А што тычыцца сацыял-дэмакратаў, то кансэрватыўна-патрыярхальны лад беларускага жыцьця, нягледзячы на ўяўную "левізну" масавае сьвядомасьці, пакідае вельмі мала мейсца для гэткіх падвалінаў заходняе сацыял-дэмакратычнае рыторыкі як "сацыяльнае партнэрства", "сацыяльная дзяржава", "удзел працаўнікоў у валоданьні й кіраваньні прадпрыемствамі" й г.д.

Тут аднак трэба ўлічваць тыя эканамічныя забабоны насельніцтва, што засталіся ў спадчыну ад саветаў, а таксама й стан эканамічнае сыстэмы. Таму ідэалёгія дзяржаўніцкага кансэрватызму павінна шырока выкарыстоўваць гаслы кшталту "сацыяльна-рынкавая эканоміка", "права на бясплатную мэдычную дапамогу й адукацыю", "уплыў дзяржавы на сыстэмаўтваральныя галіны эканомікі", і гэта ня будзе ўводам у зман ці нападўпраўдаю, бо гэтыя зашырокія дэмагагічныя паняткі можна й трэба напоўніць рэальным зьместам пазытыўнае эканамічнае палітыкі рынкавых пераўтварэньняў.

Паводля сутнасьці "сацыяльныя" запатрабаваньні масавае сьвядомасьці ня ёсьць левымі — камуністычнымі, або тым болей сацыял-дэмакратычнымі (у сэнсе сучасных "новых левых" Заходняе Эўропы). Насельніцтва не жадае партнэрства, супрацьстаяньня буйному капіталу, усяўладзьдзя прафсаюзных босаў. Яно чакае ўсяго на звыклую апеку з боку дзяржавы ў важных жыцьцёвых момантах (хвароба, атрыманьне адукацыі, своечасовая пэнсія, хай мізэрная, і г.д.) Гэтымі чаканьнямі нельга грэбаваць, але ня трэба ім і дужа патураць. І зусім ня варта рабіць зь іх трагедыю: маўляў, у нас надоўга захаваецца "чырвоная" палітычная палітра. Гэткія чаканьні падкрэсьліваюць ня левы ўхіл у сьвядомасьці, але падсьвядомае патрабаваньне патэрналізму ад дзяржавы. Беларускі дзяржаўніцкі кансэрватызм мусіць быць толькі патэрналісцкім. Патэрналізм выб'е глебу з-пад левых і левацэнтрысцкіх груповак рознага кшталту й зусім арганічна станецца складнікам кансэрватыўнае ідэялёгіі.

Што да разнастайных лібэральных ідэяў у беларускім выкананьні (перадусім АГП) — дык іхных носьбітаў вызначае адсутнасьць пазыцыі ў адносінах з Захадам, зусім пэўная пазыцыя ў дачыненьні да Ўсходу, залішняя ўвага да шаблёнаў МВФ-аўскіх летуценьнікаў у эканамічных напрацоўках, залішнія спадзевы на расейскі капіталізм "а 1а Борис Абрамыч & Борис Ефимыч & Анатолий Борисыч". Найгалоўнейшая іхная праблема — адсутнасьць пэўнае электаральнае базы, бо за гэткую нельга ўважаць праслойку гарадзкіх дэмакратаў, што "баяцца БНФ", але "за вольны рынак і дэмакратыю", хоць таксама й за "дружбу з Расеяй".

Скіраванасьць дзяржаўніцкага кансэрватызму на гэтак неабходнае машынабудаўнічай, радыёэлектроннай прамысловасьці рэфармаваньне, але не паводле МВФ-аўскіх канцэпцыяў рэформаў у ідэальнай эканоміцы (гэта як ідэальны газ у фізыцы) і не паводле сцэнару крамлёўскіх абрамычаў, а паводле стратэгічнае канцэпцыі дзяржаўнага будаўніцтва, у значнай ступені скараціць няпэўнае электаральнае апірышча лібэралаў.

Аксыёмаю ёсьць меркаваньне, што стацца пераемнікам Лукашэнкі зможа толькі палітычная сіла, якая прапануе большасьці грамадзтва тое, чаго яна (большасьць) прагне. Толькі ад нас залежыць, ці будуць гэтыя пераемнікі нэалукашыстамі, ці — тутэйшымі лібэраламі (у іх, праўда, найменшыя шанцы), альбо гэта будуць здаровыя дзяржаўніцкія нацыяналістычныя сілы, вольныя таксама ад палітычнага рамантызму "культурнікаў" пачатку 90-ых, як і ад хістаньняў і разгубленасьці 1995-97 гг.

Адмаўляючы тое дзяржаўнае ўладкаваньне, якое ствараецца ў краі сёньня, ня трэба забывацца, што менавіта зь нетраў існае дзяржавы народзіцца нацыянальная дзяржава недалёкае будучыні. Прафэсійнай "павітухаю" ў гэтым складаным працэсе могуць стацца адно кансэрватыўныя нацыянальныя сілы.

Алесь Віталёнак

# ПАСПАЛІТАЕ РУШАНЬНЕ Й ГЕРАРХІЯ

Уладкаваньне нашага краю ад спракаветнасьці мела абрыс непарушнае герархічнасьці – то бок выверанае да дробязі адладжанасьці ўсяго грамадзкага арганізму. Закладзенае тысячагодзьдзі таму адчуваньне герархіі знайшло сваё ўвасабленьне ў трох асноўных колерах беларускае арнамэнталёгіі як вонкавае праявы генэтычнае сьвядомасьці. Белы колер сымбалізаваў чысьціню, нескаронасьць, вышэйшую форму Духу, чырвоны – пралітую ў імя Бацькаўшчыны, Веры й Продкаў кроў, чорны – зямлю як аснову ўсяго існага. У гэтых колерах адлюстравалася форма Беларускае Герархіі – тры касты грамадзтва: сьвятароў (узначальваньне), ваяроў (абарона), працаўнікоў (стваральная праца). Гэткая герархічная лесьвіца была, ёсьць і будзе асноваю, стрыжнем і каркасам Беларускага Ладу.

Зараз улада ў руках чужынцаў. Каб перамагчы іх, неабходна быць Беларусамі. Толькі Беларускі Парадак на Беларускай зямлі здольны зрынуць чужынскую сумятню. Толькі Рух зь Беларускай Герархіяй здольны зьмесьці чужынскую арду, што бярэ не дысцыплінай, але масай.

Каб усталяваць Беларускі Лад у дзяржаве, патрэбна найперш увасабляць яго ў сабе. Такім чынам, мы прыйшлі да высновы: Беларускі Рух забавязаны мець Беларускую Герархію – інакш ён не Беларускі. Нашая палымянасьць разам із продкавай спадчынаю ёсьць непераможнай моцай.

На чале Беларускае Герархіі ўжо ўстаюць тыя, каго вылучае ў барацьбе сама Нацыя. Белая каста не шматлікая, ейная адзнака – элітарнасьць.

Прапарцыйнасьць другое й трэйцяе кастаў зьмяняецца ў залежнасьці ад стану грамадзтва. У мірны, стваральны час аснову складаюць Працаўнікі. Але йдзе вайна – і Айчына патрабуе Ваярскае моцы. Відавочна, беларуская рэальнасьць кліча пераўтварэньне Руху ў Войска. Гэта азначае, што зьнікае мяжа паміж Ваяром і Працаўніком. У Беларусаў гэта звалося паспалітым рушаньнем: існуе адно Камандзер і Ваяр. І больш нікога. Гэтага вымагае наш шлях. А, як сьцьвярджаў Заратустра, "для сапраўднага воя ***ты павінен* гучыць больш прыемна, чым *я хачу***".

Паспалітае Рушаньне не прадугледжвае элітарнасьці жаўнераў. Перад ворагам, як і перад Богам, усе роўныя. Мы павінны скарыстаць кожную магчымасьць папоўніць шыхты хоць-бы адным чалавекам. Дзеля Перамогі мы мусім пераступіць цераз забабоны ды стэрэатыпы й задзейнічаць у Барацьбу ўсіх тых, хто здольны да дзейсных дзеяньняў. Напрыклад, не выпадае цурацца тых-жа радыкалізаваных элемэнтаў шэрае моладзевае масы. Чаму, зьяўляючыся Беларусамі, яны працуюць на карысьць камуністаў (панкі) і маскоўскіх шавіністаў (скіны)? Мы мусім скіраваць свае высілкі ў бок іхнага дзейнічаньня на нас. Бо Паспалітае Рушаньне мае быць паспалітым, а не элітарніцкім.

Зацягненьня ў Беларускі Рух радыкалізаваных элемэнтаў не пазьбегнуць: гэта прагрэсіўна й неабходна. Захады для гэтага – тэма асобнага тлумачэньня. Мэтода гэтага – выбіваць клін клінам.

Ясь Вітажэнец

# КЛІН КЛІНАМ...



27 ліпеня яны былі сьмелыя. Але помста ўжо чакае на пярэварату

Сярод беларускіх філіяў маскоўскіх арганізацыяў для Беларускага Руху вялікую небясьпеку ўяўляюць баркашоўцы (РНЕ): ня соўваючыся ў палітыку, яны сядзяць па сваіх норах і пакрысе нарошчваюць моц. Не таямніца, што там не пакутуюць ад шматлікасьці інтэлігентных сілаў, усе яны сканцэнтраваліся ў Маскве. А асноўную рухальную сілу менскага, як і маскоўскага, як і сусьветнага фашыстоўскага руху (таго-ж РНЕ) складаюць скіны – скінхэды, брытагаловыя. Для іх усіх ідэялягічнай глебаю ёсьць нянавісьць да прадстаўнікоў іншых расаў. А ў РНЕ да гэтага дадаецца яшчэ й расейскі фашызм як сусьветная гегемонія па-над усім. Нам патрэбна найперш вынішчыць другое, інакш фашызм пусьціць на Беларусі трывалае карэньне. Каб пазьбегнуць масавага распаўсюду на нашых абшарах фашызму расейскага гатунку, трэба выбіць з-пад маскалёў грунт для ўзрошчваньня іхных ідэяў – пазбавіць іх патэнцыйна нашае моладзі.

Маладыя хлопцы на пытаньне, чаму яны пайшлі да скіноў, зазвычай адказваюць, што гэта – гарантаваная абарона; прычым, ня толькі непасрэдная, але й праз складзены аб скіноўскай "непераможнасьці" міт. Калі казаць больш дакладна, гэта – стэрэатып. І, на жаль, – устойлівы.

Сапраўды, для скіноў няма большага аўтарытэту, чым фізычная моц. Аб'ектыўна – гэта й ёсьць прычынаю іхнага сыходу ў РНЕ (нават калі скін і не ўваходзіць у РНЕ, ён дэманструе сваю прыналежнасьць да гэтае арганізацыі, зноў-жа праз складзены аб ёй "моцны" арэол). Бо толькі там, як ані ў якой іншай маскоўскай арганізацыі, вялікая роля надаецца фізычнай падрыхтоўцы. І ў якасьці спадарожніка да гарту хлапцом прышчэпваецца расейская ідэялёгія. Гэткім чынам, мы бачым, што культываваньне ідэялёгіі ёсьць вынікам культываваньня дужасьці. Гэта азначае: нашая моц непазьбежна павінна быць дужэйшаю за маскальскую. Яны (РНЕ) які-ніякі, але "дужы" імідж сабе прыдбалі. Для нас гэта новае рэчышча, і мы жыцьцём забавязаныя зваяваць сабе свой патыхаючы непераможнасьцяй выгляд.

У шкале каштоўнасьцяў для скіноў на першым мейсцы знаходзіцца сталёвы кулак. На чыім баку апынецца прывабнасьць фізычнае перавагі, той бок яны, як баязьлівыя каёты, здольныя адно да нападу зграяй, і возьмуць. РНЕ патрэбна мець рахунак у моцы на сваю карысьць – каб захаваць стан рэчаў. Нам неабходна забіць у сабе комплекс вечнага інтэлігента й пераважыць шалі на свой бок – каб перамагчы. Калі Фартуна покуль і не глядзіць на нас – мы яе зваюем!

З агульнае скіноўскае масы тымчасам трэба вылучыць заскарузлых прыхільнікаў РНЕ, якія пойдуць з Масквою да канца, да скону. Дык наблізім гэты скон! У скрайнім выпадку іх варта нэўтралізаваць, каб іхнае "кіраваньне" абмяжоўвалася хіба траўмапунктам.

У дачыненьні да астатніх будзе больш чым дастаткова простага дэманстраваньня сваіх магчымасьцяў. Сьмелыя гуртом і баязьлівыя ў раздроб, яны будуць дарэшты нашымі пасьля першае-ж прафіляктычнае гутаркі "па душах".

Наступны этап пасьля ўжо закладзенага запачаткаваньня "наездаў" – масавы распаўсюд гэтае практыкі. Затым застанецца толькі скіраваць гэтую моцную разбуральную масу ў рэчышча нашае Барацьбы. Безумоўна, потым зь іх могуць вылучыцца здольныя й патрэбныя Беларусі людзі. Набліжаньне гэткага далягляду – вылучна ў нашых руках.

Варта толькі пераступіць праз усе "дэмакратычныя" прымхі – і Перамога будзе за намі!

---

Вінцэсь Філістоўскі

# ХАЙ ТРЫМЦЯЦЬ!

Скрозь па Менску даўно хадзілі плёткі, што нібыта сама згуртаваная й неперажожная сіла сярод нефармальных рухаў – гэта скіны. Маўляў, сьмелыя ды мужныя, яны нічога не баяцца. Гэткія думкі пануюць у роздумах пераважнае большасьці моладзі. Аднак пасьля некалькіх сустрэчаў із прадстаўнікамі гэтае моладзевае плыні я пераканаўся: гэта беспадстаўны вобраз, а наймацнейшыя – беларускія нацыяналісты. Калі яны валодаюць стоадсоткавай упэўненасьцяй у сваю праўду, іх ня скорыць нават удвая большая колькасьць "мужных скіноў".

У цёплы веснавы вечар, сабраўшыся ўчацьвярох, мы зь сябрамі паставілі пытаньне рубам: хто-ж гаспадар у Менску Беларускім?! Адказ быў, натуральна, на карысьць Беларусаў, і мы вырашылі зацьвердзіць свае словы Дзеяньнем.

Гадзіне аб адзінаццатай з парку Горкага нашая чацьверка ўзяла курс на ўлюбёнае мейсца скіноўскае тусоўкі – мэтро "Кастрычніцкая", унівэрсам "Цэнтральны". Па шляху, праходзячы паўз кожны гурт маладых людзей, віталі іх воклічамі "Жыве Беларусь!", і, калі гэны гурт масава не адказваў, вярталіся на колькі крокаў назад і наяжджалі: "Хто тут супроць Беларусі?!". Кожны наезд сканчаўся, безумоўна, іхным адказам "Жыве!" Аморфнай моладзі патрэбны сьціснуты кулак перад носам. Гэта неаспрэчна.

Дык вось, прыйшоўшы на мейсца прызначэньня, адразу запрыкмецілі чалавекі з тры скіноў. Не марудзячы, мы пайшлі ў наступ, і першае нашае атакуючае пытаньне было "Скіны? Значыць, выступаеце за Расею?!". Нашым націскам яны былі прынамсі зьбянтэжаныя, і насуперак тым "моцным" стэрэатыпам адразу пачалі апраўдвацца ды аднеквацца: "Якая Расея, хлопцы! Мы ня маем анічога супроць Беларускае Незалежнасьці. А БНФ – дык увогуле неблагая змагарніцкая арганізацыя". Тут падыйшлі яшчэ хлопцаў пяць скіноў, улучыліся ў размову, але, як ні дзіўна, тон не зьмяніўся: "Усе мы свае людзі. Беларусь – гэта нашая Айчына, і мы ніколі ня пойдзем супроць яе". На пытаньне аб прыналежнасьці да РНЕ іх асабіста й скіноў увогуле адказ быў наступны: "Аб чым вы! – там-жа суцэльна адныя жыды на чале з Баркашовым". І гэтак далей і ў гэткім-жа духу. Што, да слова, зусім не азначае іхнюю шчырасьць і праўдзівасьць іхных словаў.

Мужныя толькі калі іх шмат, яны паасобку, па некалькі адразу становяцца патрыётамі да мозгу касьцей і дэманструюць перад нашай нахабнасьцяй зьдзіўляльную палымянасьць што да Беларускае Волі. Аднак гуртом (чытай: статкам) скіны ўяўляюць сілу, і, каб павярнуць яе ў Беларускае рэчышча, кожнага зь ейных складнікаў сьпярша належыць як мае быць апрацаваць.

Або вось яшчэ выпадак: купка беларускіх нацыяналаў у адзін з чэрвеньскіх днёў запрыкмеціла трох звонку сьмелых скіноў. Падыйшла, узяла "ў аблогу". І ведаеце, што яны сказалі? "Мы зусім не скіны, а вопратка (чыста скіноўская – В.Ф.) – проста так: калі гэтую апранаем, калі гэтую...". Карацей, гэтыя скіны спалохаліся дарэшты, ажно адмовіліся ад гонару "скіном звацца". На такіх узьдзейнічаць лягчэй за ўсё. Зноўку тым-жа жалезным, сьціснутым кулаком перад носам. Тут скіны падобныя да звычайнае моладзі.

Дзеля чаго ўсе гэтыя правакацыі, запытаецеся вы? Яны неабходныя, упэўнена адкажам мы вам. Наедзем раз, другі, чацьверты, дзясяты – і па гораду, па скіноўскіх асяродках пойдуць чуткі аб вялікіх і моцных нацыяналістах, якім усе перашкоды абыякавыя. Калі й самі скіны, і адасобленая моладзь убачыць, што ёсьць сіла сапраўды неперажожная, і сіла гэтая – нацыяналісты, вось тады масавасьць моладзевага вызвольнага Руху пераскочыць усе нашыя суб'ектыўныя разьлікі. Толькі тады Беларусы пераможуць і ўсталююць нарэшце на сваёй зямлі свой, Беларускі Парадак!

Беларускага Ваўка ўжо пакідае спакой - для каётаў надыхо-зяць цяжкія часіны.





Радамір Коршак

Прага. Лістапад'97. Сто тысячаў незадаволеных самагубнымі захадамі ўлады

# БЕЛЫ РЭВАНШ: ЧЭХІЯ

Чэхія... У шмат каго найменьне гэтае краіны выклікае атаясамленьне з «аксамітнаю рэвалюцыяй», калі да ўлады прыйшлі лібэралы на чале з Вацлавам Гавэлам. Даўгое дзесяцігодзьдзе яны трымалі ўладнае стырно. Аднак эйфарыя ад «вяртаньня ўва ўлоньне эўрапейскае цывілізацыі» паступова растала. Лягічным вынікам гэтага сталіся страчаны давер да рэформаў і адыход прыхільнасьцяў чэскага насельніцтва ад «партыі ўлады». Лібэралізм у Чэхіі ўваходзіць на апошні этап свае крызы. Аксаміт чэскае «памяркоўнае» рэвалюцыі на зьверку апынуўся працёртым і багата паьыедзеным моляй незадавальненьня абраным курсам.

У чэскай сьвядомасьці ўжо трывала замацаваліся рысы, што суправаджаюць «новую», пасьлякамуністычную ўладу. А яны дужа-ж падобныя да аналягічных рысаў былое ўлады: гіпэртрафаваная карумпаванасьць дзяржаўных службоўцаў, фінансавыя скандалы, публічныя раздраі ды зваdкі палітыкаў. На пэраговага чэха вялікае ўражаньне робяць размовы аб швайцарскім шыкоўным лецішчы, якое ўзводзіць нядаўна звольнены прэм`ер Вацлаў Кляус, аб велізарных сумах, што пераводзяць бізнэсоўцы на партыйныя рахункі ў абмен на лаяльнасьць ураднікаў пры разьмеркаваньні выгодных кантрактаў. Чэхі ня вераць лібэральнаму ўраду й ня хочуць працягненьня ягонага кіраваньня.

Палітычнае жыцьцё краіны адзначанае новым уздымам дзейснасьці: на таку партыйнага змаганьня яскрава вылучаюцца левы й правы лягеры. На тле недаверу лібэральнай уладзе пераможца ў барацьбе й станецца дыктоўцам палітычнае моды.

Левы лягер — сацыял-дэмакраты й да іх блізкія — моманту не ўпусьцяць, скарыстаўся зручным становішчам і зараз знаходзіцца «на грэбні», маючы ў рэйтынгу ледзь не трациіну прыхільнасьцяў. Апроч «сэдэкаў» і артадаксальных камуністаў цікавым падаецца яшчэ адзін складнік «траістага зьвязу» — маргінальная групоўка «Пэнсіянэры за надзейнае жыцьцё». Ейныя актывісты — колішнія шчырыя камуністы. Папулярнасьць гэтага ўтварэньня абумоўленая агульнаэўрапейскаю тэндэнцыяй: сёньня кажны пяты эўрапеец — пэнсіянэр, а цераз гадоў трыццаць людзі, старэйшыя за 60 год, складуць трацыну ад насельніцтва. Гэткім чынам відавочныя межы лягеру прыхільнікаў левых. Большасьцяй гэта аморфныя пэнсіянэры, здольныя толькі на тое, каб падыйсьці да выбарчае скрыні ды трымцелымі пальцамі кінуць туды бюлетэнь. Выйсьці на масавыя дэманстрацыі (а тым болей браць удзел у ***актыўных дзеях***) **у іх няма проста фізычнае магчымасьці. А адным кідком паперчыны ў скрыню будучыню ня вырашыш — патрэбныя больш чынныя высілкі.**

Адзіным прадстаўніком правага кансэрватыўнага лягеру прававіта лічыцца Рэспубліканская партыя Чэхіі. Ейны лідар Міраслаў Сладэк перакананы акрэсьліваe ідэалягічны стрыжань свае арганізацыі як нацыяналістычны. Чэхі, стомленыя ад безьлічы прывілеяў урадн́ікам ды разгулу арганізаванае злачыннасьці, пачынаюць станоўча ацэньваць рэспубліканцаў, якія абяцаюць навесьці парадак у сваёй краіне нескладанымі мэтадамі: абмежаваць прысутнасьць у Чэхіі цыганаў і іншых іншаземцаў ды ўзмацніць барацьбу з злачыннасьцяй. Прыхільнасьць пакрысе здабывае й адмоўнае стаўленьне рэспубліканцаў да ўваходжаньня дзяржавы ў блёк NATO: Сладэк у прынцыпе супроць знаходжаньня любых чужаземных жаўнераў на абшарах ягонае радзімы й супроць якога-кольвечы абмежаваньня чэскага сувэрэнітэту.

У адрозьненьне ад надта сталага электарату левых да ідэяў рэспубліканскіх нацыяналістаў найбольшыя сымпатыі маюцца ў моладзевых асяродках. Важкую ролю тут адыгралі й выступы ў падтрымку партыі Алімпійскага чэмпіёна, славутага хакеіста Ўладзімера Ружычкі. Няма сумневаў у тым, чый бок палітычных барыкадаў возьмуць шматлікія хакейныя фанаты, што шпацыруюць па гарадох у швэдрах із прозьвішчам «Ружычка» на сьпіне. Варта адзначыць, што сам Ружычка, дасягнуўшы паважнага ўзроўню ў спорце, зьяўляецца своеасаблівым сымболем чэскіх перамогаў (хоць бы й у спорце) ды кумірам ці не ўсяе чэскае моладзі — гарачае, палымянае, адданае моладзі, што не збаіцца ўстаць грудзьмі на падтрымку тае партыі, за якую выступае ўвасабленьне мужнасьці — алімпіец Ружычка.

Марныя намаганьні ізаляваць рэспубліканцаў-нацыяналістаў, якія ўпарта прадпрымалі й уладу трымаючыя палітыкі, і асабіста прэзыдэнт Вацлаў Гавэл, праваліліся. Рэспубліканская партыя ўпэўнена набірае палітычную вагу. Нацыяналісты йдуць наўпрост. Чэская моладзь перакананая йдзе за нацыяналістамі. І наўперадзе ўжо чуюцца фанфары наканаванае перамогі чэскіх правых кансэрватараў.

